Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 10 (36)

КАСТРЫЧНІК 1935 г.

МЕНСК — 1935



Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 10 (36)

КАСТРЫЧНІК 1935 г.

МЕНСК — 1935



## 1. АФІЦЫЙНЫ РАЗДЗЕЛ

# Пастанова № 1630

## Совета Народных Камісараў БССР

*5 кастрычніка 1935 г.* *гор. Менск.*

### Аб учоце і рахункаводстве ў калгасах на 1936-37 г.г.

Совет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 11/IX-1935 г. № 2050, захаваць на 1936 і 1937 г.г. сістэму і перачэнь форм калгаснага ўчота і рахункаводства, зацверджаныя пастановай СНК СССР ад 20/XI-1934 г. № 2599, дапоўніўшы гэты перачэнь наступнымі формамі: форма № 14 „Рахунак" (вядзецца праўленнем калгаса), форма № 22 „Авансавая справаздача", форма № 40 „Пасведчанне на семматэрыял" (выпісваецца праўленнем калгаса).

2. Зацвердзіць дадаваемы перачэнь галоўных рахункаў калгасаў на 1936 і 1937 г.г. (дадатак).

3. Прапанаваць Народнаму камісарыяту земляробства, Райземаддзелам і МТС не пазней 15 лістапада 1935 г. зрабіць канчатковы разлік з калгасамі, унёсшымі авансы на набыццё кніг і бланкаў на 1935 г.

4. Захаваць на 1936 год парадак афармлення заказаў і разліка паміж Наркамземам і Беларускім аддзяленнем „Саюзоргучота" за формы ўчота і справаздачнасці для калгасаў, устаноўлены пастановай СНК СССР ад 11 снежня 1933 г. за № 2667.

5. Абавязаць Беладдзяленне „Саюзоргучота" і Паліграфкіраўніцтва НК Мясцпрома:

а) Саюзоргучоту пад адказнасць т. Мільхмана перайсці на камплектнае снабжэнне калгасаў бланкамі і кнігамі калгаснага ўчота і рахункаводства з такім разлікам, каб у 1936 г. былі ахоплены камплектным снабжэннем праз Райземаддзелы і МТС усе калгасы БССР.

б) Паліграфкіраўніцтву пад адказнасць т. Бедынермана надрукаваць усе формы ўчота і рахункаводства не пазней 1 лістапада бягучага года з такім разлікам, каб Саюзоргучот мог давесці да калгасаў камплекты праз Райземаддзелы і МТС не пазней 1-га снежня 1935 г., а ўсе астатнія формы дакументацыі ў тэрміны, установленыя ЦУНХУ і НКЗемляробства СССР;

в) забяспечыць выраб і закончыць разсылку кніг і бланкаў учота і рахункаводства калгасам на 1937 год не пазней 15-га лістапада 1936 года.

6. У сувязі з тым, што асноўныя формы і кнігі друкуюцца ў Гомельскай друкарні „Палесдрук“, абавязаць Гомельскі Горсовет прадставіць Саюзоргучоту складскія памяшканні для камплектавання, упакоўкі і экспедыравання камплектаў.

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў БССР *А. Саак'ян*

Кіраўнік Спраў Совета Народных
Камісараў БССР *І. Лук'янчык*

## Рахунковы план калгаса на 1936 год

(назва галоўнага рахунка).

1. Асноўныя сродкі вытворчасці (маёмасць).
2. Маладняк жывёлы і жывёла на адкорме.
3. Прадукты і матэрыялы.
4. Грашовыя сродкі.
5. Цэнныя паперы, паі і ўзносы ў фонд доўгатэрміновага вытворчага крэдытавання.
6. Разлікі з членамі калгаса.
7. Трудадні.
8. Разлікі з рознымі арганізацыямі і асобамі.
9. Асноўныя, насенныя і фуражныя фанды.
11. Трудавыя ўклады, накапленні і страты.
11. Спецыяльныя грамадскія фанды.
12. Затраты ў прамысловыя і падсобныя прадпрыемствы.
13. Затраты ў будаўніцтве і капітальны рамонт.
14. Затраты ў вытворчасці.
15. Агульна - гаспадарчыя і адміністрацыйна - гаспадарчыя выдаткі.
16. Разлікі з МТС.
17. Рэалізацыя прадукцыі.
18. Выбыцце сродкаў вытворчасці.
19. Валавая прадукцыя, даходныя паступленні і размеркаванне даходаў.

Кіраўнік Спраў Совета Народных
Камісараў БССР *І. Лук'янчык*

# Совет Народных Камісараў БССР

## № 185

*15 верасня 1935 г.*

## Старшыням РВК, Горсоветаў і АВК

### Копія: Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага ўчота БССР, НК Фінансаў

Пастановай СНК СССР ад 4 жніўня 1934 г. № 1839 (З. З. СССР 1934 г. № 41, арт. 326) і пастановай СНК БССР ад 3 сакавіка 1935 г. № 287 Раённыя выканаўчыя камітэты і Гарадскія советы абавязаны забяспечыць раённых і гарадскіх інспектароў Народна - Гаспадарчага Учота ўпарадкаванымі памяшканнямі для работы з аднясеннем іх аплаты і выдаткаў па гаспадарчаму абслугоўванню (уборка, ацяпленне, асвятленне, карыстанне тэлефонам) на рахунак раённага і гарадскога бюджэтаў, а сельскія советы тых паселішчаў, у якіх знаходзяцца ўчастковыя інспектары Народна-Гаспадарчага Ўчота, абавязаны забяспечыць інспектароў Народна-Гаспадарчага Ўчота бясплатна памяшканнем для заняткаў з гаспадарчым абслугоўваннем (уборка, асвятленне, ацяпленне, карыстанне тэлефонам).

Праверкай выканання паказаных пастаноў выяўлена, што рад РВК (Брагінскі, Сенненскі, Прапойскі, Лельчыцкі, Расонскі, Мозырскі, Любаньскі, Быхаўскі, Асіпавіцкі, Жыткавіцкі, Плешчаніцкі) не забяспечылі да гэтага часу інспектароў Народна-Гаспадарчага Учота належнымі памяшканнямі для работы. Бываюць выпадкі, калі РВК забараняюць інспектарам Народна-Гаспадарчага Учота карыстацца тэлефонам (Талачынскі, Клічаўскі). Участковыя інспектары не забяспечваюцца ў сельскіх советах памяшканнямі для работы і карыстаннем тэлефонамі. Усё гэта вельмі дрэнна адбіваецца на рабоце раённых і ўчастковых інспектур Народна-Гаспадарчага Учота.

Совет Народных Камісараў БССР прапануе:

1. Брагінскаму, Сенненскаму, Прапойскаму і інш. Раённым выканаўчым камітэтам, якія да гэтага часу не забяспечылі раённых інспектур Народна-Гаспадарчага Ўчота належнымі памяшшаннямі для работы, неадкладна забяспечыць іх гэтымі памяшканнямі з аднясеннем іх аплаты і выдаткаў па гаспадарчаму абслугоўванню (уборка, ацяпленне, асвятленне і карыстанне тэлефонам) на рахунках раённага бюджэта згодна пастановы СНК СССР ад 4 жніўня 1934 г. і пастановы СНК БССР ад 3 сакавіка 1935 г.

2. Талачынскаму і Клічаўскаму РВК адмяніць свае распараджэнні аб забароне раённым інспектарам народна-гаспадарчага ўчота карыстацца тэлефонам за рахунак раённых выканаўчых камітэтаў.

3. Лельчыцкаму, Расонскаму, Брагінскаму, Мазырскаму, Чырвона-Слабодскаму, Любаньскаму, Халопеніцкаму і інш. раён-

ным выканаўчым камітэтам і сельскім советам, у якіх знаходзяцца цэнтры ўчастковых інспектур народна-гаспадарчага ўчота, неадкладна забяспечыць апошніх бясплатна памяшканнямі для заняткаў у сельскіх советах з гаспадарчым абслугоўваннем (уборка, асвятленне, ацяпленне, карыстанне тэлефонам).

4. Раённым выканаўчым камітэтам аказваць раённым інспектурам Народна-Гаспадарчага Ўчота дапамогу ў іх штодзённай рабоце, асабліва пры правядзенні такіх вялікіх работ, як учот жывёлы і пасеўных плошчаў, вымярэнне ўраджаю і інш., а таксама заслухоўваць даклады райінспектур на прэзідыуме РВК.

СНК абавязвае ўсіх АВК і РВК забяспечыць выкананне пастаноў СНК СССР і СНК БССР аб забеспячэнні органам КНГУ умоў для нармальнай работы. СНК папярэджвае, што ў далейшым ён вымушан будзе прыняць супроць вінаватых меры рашучага спагнання.

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў БССР *А. Саак'ян*

# У СНК СССР і ЦК ВКП(б)

## Аб пастаноўцы ўчоту натуральнага руху насельніцтва.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) разглядзелі пытанне аб пастаноўцы ўчоту натуральнага руху насельніцтва.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) прызналі, што з прычыны адсутнасці кантролю і кіраўніцтва з боку мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый і, у асаблівасці ЦНХУ, работай арганізацый па ўчоту натуральнага руху насельніцтва на мясцох—гэты ўчот да апошняга часу (да перадачы ЗАГС'а ў веданне НК унутраных спраў) знаходзіўся ў яўна нездавальняючым становішчы. Органы ўчоту часта скарыстоўваліся класавымі ворагамі (папы, кулакі, быўшыя белыя), пралезшымі ў гэтыя арганізацыі і праводзіўшымі там контррэволюцыйную, шкодніцкую работу (рэгістрацыя па некалькі раз смерці адных і тых-жа асоб, недаўчот нараджаемасці і г. д.).

У мэтах далейшага паляпшэння пастаноўкі ўчоту натуральнага руху насельніцтва СНК СССР і ЦК ВКП(б) пастанавілі ўвесці з першага студзеня 1936 г. абавязковую выдачу аддзеламі актаў грамадзянскага становішча НКУС (ЗАГС'амі) спецыяльных пасведчанняў на гербавой паперы аб нараджэнні па спецыяльнай форме, зацвярджаемай СНК СССР. З гэтага-ж часу ўстанаўляецца абавязковае прадстаўленне ўсімі грамадзянамі пры паступленні ў школы, тэхнікумы і ВНУ і пры прызыве на ваенную службу ўказаных вышэй пасведчанняў аб нараджэнні.

Наркамату ўнутраных спраў СССР сумесна з пракуратурай СССР прапанавана ў месячны тэрмін распрацаваць і прадставіць на зацвярджэнне СНК СССР адзіны саюзны закон аб рэгістрацыі нараджэнняў і смярцей, у якім, у прыватнасці, павінны быць прадугледжаны тэрміны і парадак рэгістрацыі, адказнасць за ўхіленне ад рэгістрацыі нараджэнняў і смярцей і за парушэнне ўстаноўленых законам тэрмінаў рэгістрацыі, а таксама крымінальная адказнасць сакратароў сельсаветаў за адмаўленне ці несвоечасовую рэгістрацыю, за непрадстаўленне ў тэрмін пярвічных справаздачных даных аб натуральным руху насельніцтва і за прадстаўленне няправільных даных.

Мясцовыя аддзелы актаў грамадзянскага становішча НКУС (ЗАГС'ы) пры рэгістрацыі шлюбаў і разводаў павінны трэбаваць ад рэгіструючыхся прадстаўлення ў гарадах пашпартоў, а ў сельскіх мясцовасцях пасведчанняў аб нараджэнні, у якіх рабіць адзнакі аб уступленні ў шлюб ці аб разводзе.

НКЗ СССР
учотна-статыстычны
аддзел
3 чэрвеня 1935 г.
№ 203

**Усім наркамземам, край (обл)зу**

Учот

конупр.

У мэтах наглядання за ходам вырашчвання конскага маладняка прыплода 1935 года прапануем вам адчотнасць па злучной кампаніі дапоўніць наступнымі паказчыкамі:

Па калгасам (адч. № 22)

1. З пачатку года ажарабілася кабыл . . . . . галоў
2. „ абортыравала кабыл „
3. „ пала жэрабят выжэрэбкі 1935 года . . . . . . . „

Па РВК, сельсоветам (адч. № 30 і 13).

| З пачатку года: | У калгасах. | У аднаасобніках |
|---|---|---|
| 1. Ажэрабілася кабыл галоў | | |
| 2. Абортыравала кабыл „ | | |
| 3. Пала жэрабят выжэрэбкі 1935 года „ | | |

Гэтыя звесткі павінны давацца калгасамі, сельсоветамі і Райза толькі адзін раз у месяц па становішчу на 1-е число, а не па дэкадам.

На ўвядзенне гэтай адчотнасці атрымана згода СНК СССР ад 28-га мая 1935 года № 203—260.

Атрыманне падцвердзіце і дайце тэрміновa распараджэнне Райземаддзелам аб гэтых дадатках.

Нам. Наркома земляробства СССР *Цылько.*

# Загад № 470

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 7-га кастрычніка 1935 г.*

Праведзенай праверкай работнікамі Кіраўніцтва Наргасучота на працягу 2—6 кастрычніка правільнасці звестак па азімаму севу, а таксама па становішчу ўчота ў сельсоветах і калгасах высветлена:

а) У большасці правераных сельсоветах не заведзены кнігі учота сельгаскампаній (ф. № 18)—у Бабруйскім раёне ў Цялушскім і Кавалеўскім сельсоветах, у Ветрынскім раёне ў Семенецкім і Гомельскім с/совеце і ў Кіраўскім раёне ў Старцаўскім і Баравіцкім сельсоветах.

б) У многіх калгасах не заведзен падвойны ўчот, не вядуцца працоўныя кніжкі калгаснікаў (калгасы „Чырвон. Віленка", „2-я пяцігодка", „Чырвоная Букіна" Кіраўскага раёна, калгасы імя Варашылава „Зара Рэволюцыі" і „Чырвоная Беларусь" Бабруйскага раёна);

в) Высланыя Кіраўніцтвам Наргасучота да 16 верасня кнігі первічнага ўчота сельсоветаў на 1936 год да гэтага часу не спушчаны сельсоветам, а ў Кіраўскім раёне гэтых кніг інспектура не атрымала з пошты да 29/IX.

Паказаныя факты сведчаць аб злачынна-нядбайных адносінах да сваіх прамых абавязкаў асобных раённых і ўчастковых інспектароў, якія не паклапаціліся праверыць становішча учота ў сельсоветах і калгасах і не прымалі мер да яго палепшання, як шляхам дэталёвага інструктажа і дапамогі, а таксама сігналізацыі перад кіруючымі раённымі арганізацыямі аб недапушчальным становішчы ўчота ў асобных сельсоветах і калгасах. Гэта таксама сведчыць аб тым, што паказаныя раённыя і ўчастковыя інспектары не даацанілі палітычнай важнасці правільнага вядзення ўчота ў калгасах і ўчота сельгаскампаній у сельсоветах.

### Загадваю:

1. За адсутнасць належнай праверкі і дапамогі сельсоветам і калгасам у завядзенні первічнага учота і не прыняцце дастатковых мер да зрыўшчыкаў учота—абвясціць вымову Бабруйскаму раённаму інспектару т. Леўковічу і Кіраўскаму раённаму інспектару т. Луніну.

2. Участковага інспектара Бабруйскага раёна т. Расіна і ўчастковага інспектара Віцебскага раёна Бухаўцова за халатныя адносіны да сваіх абавязкаў зняць з работы і забараніць працаваць у органах Наргасучота.

3. Усім раённым і участковым інспектарам правесці да 26/X-35 г. сплашную праверку становішча ўчота ва ўсіх калгасах і сельсоветах сваіх раёнаў, аказаўшы належную дапамогу і інструктаж на месцах, а аб злостных зрыўшчыках ўчота, як

ў калгасах, сельсоветах і Райза перадаваць справы раённым пракурорам для прыцягнення да крымінальнай адказнасці.

4. Не пазней 15/X забяспечыць усе сельсоветы пагаспадарчымі кнігамі на 1936 год.

5. Паставіць перад РВК пытанне аб тым, каб неадкладна прапусціць праз кваліфікацыйныя камісіі ўсіх сакратароў сельсоветаў (акрамя тых, якія прашлі курсы сакратароў у Менску і Магілеве).

6. Падрабязныя акты на кожны сельсовет і калгас, а таксама звесткі аб кваліфікацыйных камісіях даслаць мне асабіста не пазней 15 га лістапада і адбіткі старшыням РВК.

7. У тых раёнах, дзе райінспектары знаходзяцца на курсах, адказнасць за выкананне гэтага ўскладняецца на часова выконваючых іх абавязкі.

8. Учотнай Інспекцыі ўтварыць праверку выканання гэтага загада на працягу кастрычніка—лістапада месяцаў не менш як у 15 раёнах.

Начальнік Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі*

## Загад № 432

## Па Кіраўніцтву Наргасучота БССР.

*ад 4-га верасня 1935 г.*

Вытваранай Учотнай Інспекцыяй КНГУ БССР рэвізіяй грашовых спраў і дакумантаў Жыткавіцкай інспектуры Наргасучота за час з 1/I па 1/IX 1935 г. выяўлен шэраг парушэнняў фінансавай дысцыпліны і недапушчальныя адносіны з боку райінспектара т. Лойко да вядзення справаздачы. Гэта выразілася ў тым, што інспектура спісала выдатак без дакумантаў: 75 руб., якія пераведзены на гандлёвы перапіс, 131 руб. 91 к. на гаспадарчыя выдаткі, прычым маецца перавыдатак супроць нормы на 80 р., зарплата інспектуры за красавік выпісана 513 р. замест 423 р. Акрамя гэтага, т. Лойко незаконна атрымаў 180 руб. з сум пераведзеных на перапіс жывёлы, быццам за сваю работу па перапісу, таксама няправільна выплачана за красавік зарплата інструктару т. Цепленскай 150 руб, замест 140 руб., у выніку гэтага па інспектуры маецца недахоп у 486 руб. 97 к.

На падставе вышэйсказанага загадваю:

1. За выяўленыя факты парушэння фінансавай дысцыпліны, незаконнае атрыманне грошай і неправільнае складанне справаздачы Жыткавіцкаму райінспектару Наргасучота т. Лойко абвясціць суровую вымову з папярэджаннем.

2. Абавязаць т. Лойко на працягу 10 дзён унесці ў Дзяржбанк на восстанаўленне крэдытаў неправільна выпісаную у расход зарплату за красавік 90 р., незаконна атрыманыя ім за перапіс 180 р. і правышэнне нормы па гаспадарчым выдаткам 80 руб., разам 350 руб. На выдаткаваныя па гандлёваму перапісу 75 руб. і па гаспадарчым выдаткам 51 р. 97 к. (131 р. 97 к.—80 р.) прадставіць у бухгалтэрыю КНГУ апраўдацельныя дакуманты.

3. Папярэдзіць Жыткавіцкую райінспектуру і звярнуць увагу ўсіх райінспектароў Наргасучота на тое, што ўсе выдаткі павінны быць падцверджаны апраўдацельнымі дакументамі і што ні адна сума не можа быць занесена ў справаздачу без дакумантаў.

4. Усім райінспектарам весці дакладны ўчот паступлення і выдаткавання грошай, акуратна запісваючы кожны дакумант у ведамасці прыхода і расхода.

5. Абавязаць учотную інспекцыю правесці да канца 1935 г. рэвізію грашовых спраў і дакумантаў не менш, чым у 20 інспектурах.

Нам. Начальніка КНГУ БССР *Кацнельсон.*

---

## Загад № 465

### Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 3-га кастрычніка 1935 года*

1. За зрыў важнейшых учотна-статыстычных работ, як: дынамічнае абследванне у 6 калгасах, вымярэнне ўраджайнасці па ільну і ўчот численнасці і фондаў зарплаты за II квартал— зняць Чаускага раённага інспектара Мільцына з работы.

2. Камандыраваць нам. начальніка Учотнай Інспекцыі т. Левіна ў Чаускую інспектуру для ўтварэння фінансавай рэвізіі грашовых спраў інспектуры.

Начальнік Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі*



# II. РАБОТА РАЁННЫХ І ЎЧАСТКОВЫХ ІНСПЕКТУР

## СТАРШЫНІ ЦВК БССР т. ЧЭРВЯКОВУ
## НАЧ. КНГУ т. ВЛАДЗІМІРСКАМУ

Нарада сакратароў сельскіх советаў Лоеўскага раёна, склі-каная інспектурай Наргасучота 6-га кастрычніка г.г., абгава-рыўшы вынікі пастаноўкі ўчота ў сельсоветах у 1935 годзе і добра прапрацаваўшы пагаспадарчыя кнігі на 1936 год, шле Вам гарачае большэвіцкае прывітанне.

Узнімаючы соцыялістычны ўчот на вышэйшую ступень і вя-дучы рашучую барацьбу супроць парушальнікаў вучотнай дыс-цыпліны, советы Лоеўшчыны дабіліся значных поспехаў у справе завядзення ўчоту ў параўнанні з мінулымі гадамі, а таксама і прадстаўлення справаздачнасці па зацверджаным урадам формам.

Змагаючыся за добрую пастаноўку ўчота, советы Ліпнякоўскі, Убокраўскі, Казярожскі, Бывалькаўскі, Папоўскі, Карпаўскі і інш дабіліся добрых поспехаў, узорна паставіўшы ўчот і справаз-дачнасць у советах.

Запэўніваем Вас, што мы прыложым усе намаганні, каб ў 1936 годзе завесці ўзорную пастаноўку соцыялістычнага ўчота ў сельсоветах, вядучы рашучую барацьбу з парушальнікамі ўчотнай дысцыпліны і ўсямерна змагаючыся за точную палітычна-правераную лічбу.

Па даручэнню нарады:

Раённы інспектар Наргасучота—*Бацяноўскі*

Участковы інспектар НГУ—*Колас*

Сакратары с/советаў *Нікіценка*, *Іванец*, *Літашэнка*, *Чырвоны*

# Выпіска

з пратакола № 25 пасяджэння прэзідыума Смілавіцкага РВК ад 20 верасня 1935 года.

§ 409. Слухалі: Аб несвоечасовым прадстаўленні звестак сельсоветамі і калгасамі (Растокінскі).

Пастанавілі: 1. Пастанова СНК аб тэрмінах дасылкі інфармацыйных звестак паасобнымі сельсоветамі, арганізацыямі сістэматычна своечасова не выконваецца. (Дукорскі сельсовет калгас „Новы Дрычан" Дрычанскага с/с. Райпромкомбінат, калгас „Профінтэрн", калгас „Пабедзіцель" Карзуноўскага сельсовета і інш.)

1. Адказныя кіраўнікі ўстаноў, старшыні сельсоветаў і калгасаў не правяраюць дасылкі звестак тэхнічнымі работнікамі, дзякуючы чаму звесткі дасылаюцца з вялікімі спазненнямі і неакуратным запаўненнем. Напрыклад: калгас Чарвякова Шацкага с/с., Дудзіцкі сельсовет і Бел. вопытная станцыя Зазер'е;

3. За безабразна недапушчальныя адносіны і несвоечасовую дачу справаздачнасці НГУ і Райза па ўсім відам справаздачнасці аштрафаваць рахункавода калгаса „Новы Дрычан" Дрычанскага с/совета Скавыша ў суме 35 руб. і рахункавода калгаса „Пабедзіцель" Карзуноўскага сельсовета 20 руб. Катэгарычна папярэдзіць сакратара Дукорскага сельсовета т. Шпака, што ў выпадку паўтарэння з яго боку падобнага з'явішча да яго будуць прыняты больш суровыя меры ўздзейнічання.

4. Катэгарычна патрабаваць ад усіх сакратароў сельсоветаў, рахункаводаў калгасаў і статыстыкаў усіх арганізацый у далейшым прадстаўляць справаздачнасці ў паказаны тэрмін добраякасна і своечасова.

Адначасова папярэдзіць усіх кіраўнікоў устаноў, старшынь сельсоветаў і калгасаў аб іх персанальнай адказнасці за падпісваемыя імі справаздачнасці, патрабаваўшы ад іх абавязковай праверкі падпісваемых імі справаздачных звестак.

5. Абавязаць інспектара Наргасуліка т. Растокінскага аб кожным паасобным выпадку недасылкі справаздачнасці ставіць у свядомасць прэзідыум РВК для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

6. Абавязаць Райза пры правядзенні курсаў рахункаводаў калгасаў у раённай калгаснай школе ўвесці ў праграму 20 учэбных гадзін па распрацоўцы справаздачнасці.

7. Адзначыць недапушчальнае з'явішча з боку кіраўнікоў Райза ўрядзенне сваіх форм і патрабаванне ад калгасаў звестак па непрадугледжаным законам формам. Абавязаць заг. Райза т. Рэйнікава адмяніць форму, па якой патрабуюцца незаконна звесткі ад калгасаў.

## Пастанова № 193

### Прэзідыума Бешанковіцкага Райвыканкома

*Ад 24 верасня 1935 года*

Аб завядзенні сельсоветамі пагаспадарчых кніг на 1936 год.

Прэзідыум Райвыканкома пастанаўляе:

1. Прапанаваць раённаму інспектару народна-гаспадарчага учота пагаспадарчыя кнігі для сельсоветаў на 1936 год уручыць асабіста сакратарам сельсоветаў, дакладна праінструктаваўшы іх аб парадку запаўнення і вядзення гэтых кніг, для чаго склікаць на 28 верасня спецыяльную нараду.

2. Памятку для сакратароў сельсоветаў аб вядзенні пагаспадарчых кніг на 1936 год—зацвердзіць.

3. Прапанаваць сакратарам сельсоветаў у 5-ці дзённы тэрмін зрабіць у пагаспадарчых кнігах 1935 года адзнакі аб зменах у сямейным становішчы калгаснікаў і аднаасобнікаў (нараджэнні, смерці, выхад замуж і г. д.) з дакументаў па ЗАГС'у, а таксама разнесці па кнігах № 3 выкананне абавязкаў перад дзяржавай і ў далейшым рабіць гэта своечасова ў парадку штодзеннай бягучай работы сельсовета.

4. Папярэдзіць сакратароў сельсоветаў, што як за сканчэнне гаспадарчых кніг за 1935 год, так і за завядзене іх на 1936 год, яны нясуць персанальную адказнасць.

5. Прапанаваць раёнаму інспектару Народна-гаспадарчага ўчота зрабіць праверку ў снежні месяцы г.г. ва ўсіх сельсоветах як заканчэнне кніг за 1935 год, так і завядзенне іх на 1936 год і аб выніках праверкі далажыць прэзідыуму РВК не пазней 25 снежня.

Старшыня РВК—*Князеў*
Сакратар—*Мардвінаў*

---

## Пастанова

### Прэзідыума Бабруйскага раён. Выканаўчага Камітэта

*ад 4/IX-35 г.*

**Аб становішчы ўчота па ЗАГС'у ў Каменскім с/совеце.**

Заслухаўшы Інспектара Наргасучота т. Леўковіча аб выніках праверкі пастановы Прэзідыума РВК ад 27/VII г/г, Прэзідыум РВК адзначае, што сакратар Каменскага с/с—Гушча скарыстаўшы сваё службовае становішча—выдаў фіктыўную метрычную выпісь з падробленай подпіссю старшыні с/с, а таксама дапускаў да запаўнення бланкаў іншых грамадзян, не маючых ніякіх адносін да работы ў с/совеце, якія рабілі хлуслівыя за-

пісы, што падкрэслівае поўную безадказнасць у рабоце сакратара с/с Гушча, які гэтым самым дапусціў поўную заблытанасць учота па ЗАГС'у Каменскага с/с.

Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Сакратара Каменскага с/с—Гушчу з работы зняць і ўвесь матэрыял накіраваць следчым органам для прыцягнення да судовай адказнасці.

2) Даручыць т. Кожемякіну неадкладна падшукаць кандыдатуру сакратара ў Каменскі с/совет.

3) Папярэдзіць усіх сакратароў с/советаў аб іх персанальнай адказнасці за становішча запісаў і ўчота па ЗАГС'у ў с/советах.

4) Абавязаць Старшынь с/советаў не пазней 15-га верасня г/г далажыць Прэзідыуму РВК аб выкананні пастановы Прэзідыума РВК ад 27/VII г/г аб палепшанні пастаноўкі ўчота, адчотнасці і справаводства ў с/советах.

Старшыня РВК—*Царонак*

Сакратар РВК—*Кожемякін*

---

## Пастанова

### Прэзідыума Рэчыцкака Раённага Выканаўчага Камітэта

*ад 19 верасня 1935 г.* *г. Рэчыца*

### Аб зрыве тэрмінаў прадстаўлення ўстаноўленай справаздачнасці па труду, зарплаце і тэрміновых паведамленняў прадпрыемствамі і ўстановамі Рэчыцкага раёна

Не гледзячы на неаднаразовыя запатрабаванні і папярэджанні аб своечасовым прадстаўленні Інспектару Наргасучота ўчотных матэрыялаў па труду і зарплаце, а таксама тэрміновых паведамленняў аб выкананні вытворчай праграмы, шэраг прадпрыемств і ўстаноў сістэматычна ігнаруюць своечасовую дачу паказаных матэрыялаў праяўляючы антыдзяржаўныя тэндэнцыі, накіраваныя на зрыў устаноўленых Урадам тэрмінаў кан'юнктурных наглядання́ў за становішчам народнай гаспадаркі. У сувязі з чым Рэчыцкі РВК пастанаўляе:

1) За сістэматычны зрыў устаноўленых Урадам тэрмінаў прадстаўлення справаздачнасці аштрафаваць з асабістых сродкаў на 50 руб. кожнага з наступных кіраўнікоў прадпрыемств і ўстаноў:

а) Дырэктара Салтанаўскага вінзавода.
б) Дырэктара Плодаягаднага завода.
в) Дырэктара Хлебазавода.
г) Дырэктара Луггаса Ведрыч.
д) Начальніка ОРС'а Леспрамгаса.
е) Начальніка ОРС'а Закрашынскі Мох.

2) Папярэдзіць паказаных кіраўнікоў, а таксама кіраўнікоў усіх прадпрыемств і ўстаноў, у асаблівасці МТС, што ў выпадку ў далейшым парушэння ўстаноўленых Урадам тэрмінаў прадстаўлення ўчотных матэрыялаў яны будуць прыцягвацца да судовай адказнасці.

3) Прапанаваць Раённаму Інспектару НГУ сістэматычна дакладваць Прэзідыуму РВК аб злосных парушыцелях учотнай дысцыпліны.

4) Выкананне п. І ускласці на Начальніка Р.С. Міліцыі у 5-ці дзённы тэрмін.

Старшыня Раённага
Выканаўчага Камітэта—*Рэвенок*

Сакратар Раённага
Выканаўчага Камітэта—*Шапіро*

---

## Выпіска

### з пастановы Прэзідыума Чэрыкаўскага Райвыканкома ад 23/VIII 35 г.

Слухалі: Акт, складзены ўчастковым інспектарам НГУ т. Чэпікавым ад 20/VIII г. г. аб становішчы ўчота ў калгасе „Светлы шлях“ Мірагашчанскага с/совета.

Пастанавілі: 1) Прымаючы пад увагу, што ў калгасе „Светлы Шлях“ Мірагашчанскага с/совета з прычыны злачыннай бяздзейнасці і нядбайнасці рахункавода калгаса Цітава ўчот заблытан, а па жывёлагадоўлі зусім адсутнічае, а таксама за дачу неправільных звестак у Райза па абмалоту зернавых культур—прыцягнуць рахункавода Цітава к судовай адказнасці, накіраваўшы складзены акт Райпракурору для вытварэння безадкладнага даследвання і разгляда гэтай справы тэрмінова і ў паказальным парадку.

2) Папярэдзіць старшынь і рахункаводаў усіх астатніх калгасаў аб безадкладным забеспячэнні самага точнага ўчота па ўсім галінам гаспадаркі калгасаў, а таксама аб своечасовым прадстаўленні ўстаноўленых справаздачнасцей.

3) З прычыны маючыхся заяў з боку калгаснікаў аб растратах праўленнем калгасных грошай, прапанаваць загадчыку Райза тав. Лукашову безадкладна камандзіраваць інструктара—бухгалтэра Райза ў калгас „Светлы Шлях“ Мірагашчанскага с/совета, якому даручыць сумесна з рэвізійнай камісіяй калгаса вытварыць дэталёвую рэвізію ў гэтым калгасе за 1934/1935 г. г. і вынікі рэвізіі далажыць прэзідыуму Райвыканкома 13/IX-г. г.

4) Прапанаваць загадчыку Райза тав. Лукашову, дырэктару МТС тов. Ліскову і райінспектару НГУ тов. Бернацкаму наладзіць сістэматычную дапамогу і праверку пастаноўкі ўчота па ўсім калгасам раёна і вынікі праверкі дакладваць прэзідыуму РВК.

Пастанову гэтую змясціць у раённым друку.

Сакратар Райвыканкома—*Трафімаў*

# Пастанова

## Прэзідыума Жлобінскага Раённага Выканаўчага Камітэта

*ад 5 кастрычніка 1935 г.*

### Аб праверцы ўчота азімага сева 1935 года па калгасам с/советам і Райза

1. Адзначыць яўна недапусцімы ўлік пасеўных плошчаў у с/советах па аднаасобнаму сектару, які праводзіцца не па кнігам упаўнаважаных с/советаў ф. № 17, а ў большасці са слоў упаўнаважаных.

2. Маюцца выпадкі з боку некаторых калгасаў дачы звестак па азімаму севу ў с/с. у гектарах на большую колькасць (жыта на 14 га, пшаніцы на 10 га), чым у сапраўднасці было засеяна на тэрмін праверкі (калгас „На варце" Салонскі с/совет).

3. Па ўсяму раёну па калгасам не вядзецца прыёмка сева азімых прыймовымі камісіямі па якасці (па актам форма № 28 калгаснага ўчота).

4. Па Райза—атрымліваюцца звесткі ад с/советаў па 5-ціднёўкам па тэлефону, а пасля на гэтыя тэрміны не ўсе с/советы даюць падцвярджэнне пісьмова па ф. № 8 с/совецкага ўчота.

Учотна-статыстычным аддзелам Райза на 30/IX-35 г. даны звесткі Наркомзему на 1120 га больш чым паказана ў атрыманых звестках ад с/советаў на гэты тэрмін; аналагічныя выпадкі былі і раней.

Выходзячы з чаго прэзідыум РВК п а с т а н а ў л я е:

1. Абавязаць усіх старшынь с/с., старшынь калгасаў зараз-жа па калгасам зрабіць прыём пасеўных плошчаў азімых прыймовымі камісіямі па якасці (па актам ф. № 28 калгаснага ўчота). Па аднаасобнаму сектару і пасевам калгаснікаў,—праз упаўнаважаных с/советаў па кніжкам упаўнаважаных (ф. № 17 с/совецкага ўчота), а дзе будуць сумненні пасеўных плошчаў азімых зрабіць абмер пасева праз упаўнаважаных с/с. Усю гэту работу скончыць да 10/X-35 г.

2. За маючае месца очкаўцірацельства, якое выражаецца ў павелічэнні пасеўных плошчаў азімых, з боку работнікаў учотна-статыстычнага аддзела Райза і рахункавода калгаса „На варце“,—абвясціць вымову інспектару ўчота Райза тав. Піткевіч Н. і рахункаводу калгаса „На варце“ Салонскага с/с. тав. Чыкілеву.

Папярэдзіць усіх старшынь с/с, калгасаў і работнікаў Райза, што калі такія з'явішчы очкаўцірацельства абнаружацца ў далейшым, з боку Прэзідыума РВК будуць прымацца больш суровыя меры ўздзейнічання.

3. Абавязаць тав. Крышнева і тав. Пікунова праз участковых інспектароў НГУ і работнікаў Райза праверыць выкананне гэтай пастановы з боку с/советаў і калгасаў. 15/Х-35 г. далажыць Прэзідыуму РВК.

Старшыня РВК—*Люцько.*

Сакратар РВК—*Лукін.*

## Выпіска

### з пратакола пасяджэння прэзідыуму Уваравіцкага РВК ад 23/IX-1935 года

Слухалі: Райінспектара НГУ тов. Кудрыцкага аб прыцягненні да адказнасці загадчыка і бухгалтара сталовай Уваравіцкага сельпо за непрысылку адчота аб дзейнасці сталовай за II-гі квартал 1935 года.

Пастанавілі: На падставе пастановы ЦВК і СНК за № 82/2580 аштрафаваць загадчыка сталовай тав. Пінскага на 50 р. і бух. сталовай тав. Габаіна на 35 р. за невыкананне ўчотнай дысцыпліны.

2. Папярэдзіць усіх заг. і бухгалтароў сталовых, што за несвоечасовую дасылку адчотаў у Інспектуру НГУ апошнія будуць прыцягвацца да судовай адказнасці.

3) Прапанаваць заг. сталоўкі адчот прадставіць 28/IX-35 г.

Сакратар РВК *Макарэнка.*

## Пастанова

### Журы конкурса на лепшы сельсовет Бешанковіцкага раёна па пастаноўцы работы па ўчоту і справаздачнасці.

Адзначаючы значнае палепшанне справы ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах, журы конкурса лічыць, што паасобныя сакратары сельсоветаў яшчэ не звярнулі належнай увагі:

а) На своечасовае прадстаўленне аддзелам РВК ва ўстаноўленыя тэрміны і па ўстаноўленым формам звестак (Стрэлішчан-

скі—тав. Саўчанка, Бешанковіцкі нац.—тав. Лабкоўскі, Каўлякоўскі—т. Буевіч).

б) На пастаноўку ўчота і справаздачнасці ў калгасах (Стрэлішчанскі—Саўчэнка, Сеячанскі—Крышын, Біклажанскі—Гарлякоў, Плісскі—Сухоцкі);

в) Не ва ўсіх сельсоветах своечасова робяцца адзнакі ў пагаспадарчых кнігах № 3 аб выкананні абавязкаў перад дзяржавай калгаснікамі і аднаасобнікамі (Стрэлішча—тав. Саўчанка, Бешанковіцкі—т. Лабкоўскі, Вярхоўскі—Петухоў, Плісскі—Сухоцкі).

в) Не ва ўсіх сельсоветах своечасова робяцца адзнакі ў пагаспадарчых кнігах № 2 аб зменах ў сямейным складзе калгаснікаў і аднаасобнікаў (Стрэлішчанскі—Саўчэнка, Бешанковіцкі нац. — Лабкоўскі, Навікоўскі—Кавалеўскі, Каўлякоўскі — Буевіч.)

2. Журы конкурса звяртае ўвагу на кепскую пастаноўку ўчота ў Бешанковіцкім н/с і Стрэлішчанскім с/с і лічыць, што сакратары гэтых советаў Лабкоўскі і Саўчанка, маючыя большы стаж працы сакратарамі с/с, пры жаданні маглі быць у ліку першых, але дзякуючы іх неўважлівым адносінам да ўчота, яны апынуліся апошнімі ў раёне.

3. Лічыць неабходным, пры атрыманні пагаспадарчых кніг на 1936 г. склікаць інструкцыйную нараду сакратароў сельсоветаў па пытанню ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах.

4. Прасіць прэзідыум РВК выдаць прэміі за лепшую пастаноўку ўчота і справаздачнасці наступным сакратарам сельсоветаў. 1) Астровенскага—Галаўнёву першую прэмію 100 руб., 2) Сокараўскага — Пашкевічу 50 руб. і 3) Пяцігорскага—Санько 50 руб.

Журы конкурса { *Мохарт*, *Мардвінаў*, *Кулакоўскі* }

11/IX-1935 г

## Загад

### Па Дубровенскай райінспектуры Наргасучота

*ад 3/IX-35 г.*

З мэтай павышэння кваліфікацыі работнікаў наргасучота па ўчоту і статыстыцы, арганізаваць пры Райінспектуры Наргасучота з 10/IX-35 г. заняткі па прапрацоўцы кніжкі „Азбука статыстыкі“.

Абавязаць усіх работнікаў Райінспектуры і ўчастковых інспектароў НГУ, для ўдзела ў вышэйадзначаных занятках, збірацца ў кожным месяцы 1-га і 15-га чысла, а 5-й гадз. вечара ў памяшканні Райінспектуры Наргасучота.

Першыя заняткі арганізаваць 15 верасня, на якія абавязкова павінны з'явіцца ўсе ўчастковыя інспектары НГУ і работнікі райінспектуры а 5-й гадз. увечары без спазнення.

Давесці да ведама агульнага аддзела РВК, Райза, Райздрава, Дораддзела, Райана, Упаўкамзага і др. раённых устаноў, што пры жаданні ўстаноў ўвесь учотны персанал іх можа ўдзельнічаць таксама ў вышэйадзначаных занятках (прапрацоўка тэхмінімума па ўчоту і статыстыцы).

Райінспектар НГУ *Жукаў.*

## Адмоўныя з'явішчы ў рабоце раённых і ўчастковых інспектур.

I.

*Змяшчаем пісьмо Мехаўскай Райінспектуры, якое па пісьменнасці не мае сабе роўных у практыцы работы райінспектур Наргасучота*

„Адам фін сектару!

Мехаўская инспектура НГУ при РВК Паведамляе вам, што панашай інспектуры НГУ ідуть у отпуск участковы інспектар НГУ при РВК тав. Фиешко Федор Васільевич.

Як лутшый з участковых інспектароў кончыўшый перваю стадзию измирению урожая льна накарню к 28/VIII-35 года другую стадзію аб ізміренію урожая льна накарню аб выходзе валакна абязуецца кончыць к 15/IX-1935 году і ктаму ён раждениям з 1913 года і ен павінен пайці у отпуск з 20/IX-1935 года і яшчэ ідзе ў отпуск з 20/IX 1934 г. інструктор стаціст. тов. Сафонов Петар Ніколаевіч.

А патаму інспектура НГУ. Пры РВК Просіць выслать адпускныя ўчастковаму інспектару як лутшаму участковаму інспектару просім выслать адпускныя усуме 160 рублей на месячный отпуск.

Інструктару стацісту трех нідельный отпуск (3-х нідельный отпуск) а пасему просім выслать отпускныя разам з сеньтябарскай зарплатай.

У Бедительна просім не адказаць нашай прозьбы выслать атпускныя.

За райінспектэр НГУ Прі РВК *Фиешко.*

Тэхінструктар НГУ Прі РВК *Сафанов.*

II.

Вельмі часта райінспектуры пры дасылцы ў кіраўніцтва Наргасучота БССР матэрыялаў не паказваюць на матэрыялах і адносінах назвы таго сектара, якому дасылаюць матэрыялы альбо адносіны, што ўскладняе работу экспедыцыі КНГУ і затрымлівае перадачу матэрыялаў па назначэнню.

